

# ЗНОЎ У ШКОЛУ!

А. ЯКІМОВІЧ

Апусцелі лес і поле,
Надыходзіць лістапад.
Зноў злятаецца у школе
Рой шумлівы окцябрат.

Цэла лета мы гулялі
У вясёлых лагерах.
Пелі песні, загаралі,
Танцавалі ля кастра.

А пакуль мы аддыхалі,
Дык бацькі за гэты час
Многа новых збудавалі
Чыстых, светлых школ для нас.

Эх, бывай, бывай ты, лагер,
Эх, бывай, бывай касцёр
І палянка з мілым сцягам,
Лес і рэчка паміж гор!

Мы, вясёлыя рэбяты,
Як вясенні шумны рой,
Зноў злятаемся за парты
Дружнай лагернай сям'ёй.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКОМАСВЕТЫ
ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТАРА ДВБ
ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ
І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
ВЕРАСЕНЬ 1935 № 9



# Дружба

*Апавяданне В. Каваля*
*Рысункі А. Волкава*

Мы з Федзькам старыя таварышы. Наша дружба завязалася яшчэ тады, калі мы пехатою хадзілі пад стол. Нашы хаты стаялі побач, на канцы сяла. Мы раслі разам і ў нас была такая дружба, што нават федзькава старая бабулька аднаго разу сказала:

— Эйш, ты! Іх і вадою не разальеш...

Тады меншая федзькава сястрычка Мурка ўзяла конаўку вады і лінула на нас. Ад нечаканасці мы аж адскочылі ў розныя бакі...

— Ага, а я разліла! Ага, а я разліла!—заскакала Мурка на адной назе.

Федзька быў кінуўся да яе, каб адпомсціць, але бабулька ўтрымала яго за руку.

— Эйш, ты!.. Не чапайце яе... Вы-ж вялікія, а яна маленькая...

Тое, што бабка называла нас вялікімі, нам вельмі падабалася. У такіх выпадках Федзька гаварыў мне:

— Давай, Сёмка, памераемся, ці вялікія ўжо мы...

Мы станавіліся побач, шчыльна прыціснуўшыся ілбамі, і Федзька ўсякі раз непрыкметна падымаўся на дыбачкі:

— Я вышэй!—радасна гаварыў ён.

Я добра ведаў федзькавы хітрыкі і таму сказаў:

— А ты стань не на дыбачкі, тады буду я вышэй...

— А ты шыю не выцягвай, як гусак,—пачынаў крыўдзіцца Федзька.

— Гэта-ж ты шыю выцягваеш і на дыбачкі падымаешся, як гусак.

— Гэта-ж ты сам...

— Сам ты курносы...

— Ага... ну, няхай я курносы, а ты—не. Затое ў нас на двары шчаняты...

— А мой дзед белку злавіў, а ў цябе дзеда няма.

— Ага... я з табой гуляць не буду. Ідзі з майго двара!

Мы зусім разыходзіліся, як ворагі. Наша дружба рвалася канчаткова. Але не надоўга: паасобку нам было сумна, хоць мы і стараліся паказаць, што нам вельмі весела.

А ўвосень мы з Федзькам пайшлі ў школу.

Мая маці доўга тлумачыла нам, што і як гаварыць.

— Як толькі ўбачыце настаўніка, скінце шапкі і скажыце „здрастуйце"...

Хвалюючыся і баючыся, пайшлі мы ў школу. Нас спаткаў на вуліцы жартаўлівы пастух дзед Сівоха.

— Хо-хо!—засмяяўся ён.—Нашы хлопцы ў навуку падаліся...

Федзька горда падняў галаву і адказаў на гэта:

— Падвучымся трошкі і будзем усё ведаць...

А калі мы ступілі на ганак школы Федзька прашаптаў:

— Сёмка, табе не страшна? Кажуць, строгі настаўнік...

Мне хоць і страшнавата было, але я адказаў:

— Не.

— Ну і мне—не.

Школа ўжо гула роем. Мы пазналі ўсіх з аднаго сяла. Адразу-ж прышоў настаўнік—невысокі, з вялікімі рыжымі вусамі і з велізарнай кніжкаю пад пахай. У класе на адзін момант стала ціха. Усе ўбачылі, як настаўнік, строга аглядаючы вучняў, прайшоў да стала і сеў на крэсла.

Тады Федзька ўспомніў матчын наказ.

— Здрастуйце!—гукнуў ён і схаваўся за маю спіну.

— Здрастуйце...

— Здрастуйце... —хорам загулі ўсе.

Настаўнік акінуў усіх строгім позіркам.

— Ціха,—і выставіў белую руку з залатым пярсцёнкам на пальцы.

— Ну-с,—працягнуў ён, калі ўсе змоўклі. Па аднаму... падыходзьце запісвацца... Называйце фаміліі...

Федзька штурхануў мяне пад бок і першым падаўся да стала.

— Запішыце нас у школу.

— Каго гэта—нас? Фамілія?—запытаў настаўнік.

— Мяне,—смела адказаў Федзька.—Мяне і Сёмку.

Федзька доўга не мог успомніць „фаміліі". Ён перабіраў у памяці, што дзеда звалі Рудым, бацьку Тулупам, а яго... нехта ззаду пырснуў са смеху і падказаў:

— Яго фамілія хвастом павільвае...

Федзька быў засароміўся, але цётка Параска, якая прывяла сваю Ганку, адказала, што яго „фамілія"—Гайдай. Федзька кіўнуў галавою.

— Ага, праўда, я і сам ведаў...

На другі дзень мы прышлі вучыцца. Настаўнік выдаў нам па кніжцы з малюнкамі. Мы горача прыняліся за навуку. І калі мы ўжо ведалі першыя літары, Федзьку не пашанцавала. Мурка таксама хацела „вучыцца", таму і вырвала яна дзве першыя старонкі і наклеіла іх на сцяне.

Федзька быў страшэнна абураны такім учынкам, хацеў набіць Мурку, але бабка зноў заступілася:

— Не чапай яе... няхай і яна падвучваецца. Ты-ж гэтыя старонкі ўжо вывучыў — яны табе непатрэбны...

— Непатрэбны!—захныкаў Федзька.—Нічога ты не разумееш. Мяне за гэта настаўнік можа на калені паставіць.

І на другі дзень настаўнік Федзьку сапраўды паставіў на калені. Федзька стаяў на каленях на сярэдзіне класа цэлую гадзіну, патупіўшы вочы.

— Ох і нудна-ж, Сёмка, стаяць на каленях,—сказаў ён мне.—Аж хадзіць у школу не хочацца..

„Навука“ нялёгка давалася. Дзед Сівоха навучаў нас:

— Аз ды букі—бяры кій у рукі: навука—мука. Але вучыцеся шылахвосты,—у салдатах будзе лягчэй. Можа пісарамі паставяць...

Але пад самую зіму наша „навука“ на цэлы год спынілася.

— Усё праз няшчасны папоў капялюш,—злосна гаварыў Федзька, успамінаючы гэтае здарэнне...



Да нас часта прыходзіў поп—кругленькі, лысы, у зашмальцованым чорным капялюшы. Ён вучыў нас „закону божаму“. Гаварыў салодкім голасам, пагладжваючы пухлай рукою срэбраны крыж на тугім жываце. А калі злаваўся, дык крычаў:

— Балваны! Супастаты!

Аднаго разу ён расказваў, як у прыгожым садзе, які зваўся па тагочаснаму раем, жылі Адам і Ева. Добра жылі яны, але бог разззлаваўся на іх за непаслушэнства і выгнаў з раю.

— Калі і вы не будзеце слухацца і вас бог пакарае,—скончыў поп і строга падняў палец угору.

Раптам Федзька гучна зарагатаў на ўвесь клас, штурхануў мяне пад

бок і паказаў пад суседнюю парту. Я таксама не ўтрымаўся і зарагатаў.

Пад першай партай ляжаў бацюшкаў капялюш. Бацюшка так быў захапіўся сваім апавяданнем пра рай, што не заўважыў, як сам скінуў яго. Капялюш пакаціўся пад парту і лёг пад ногі Цімохаваму Гаўрылку. Лапці ў Гаўрылкі былі мокрыя і брудныя. А сам Гаўрылка так уважліва слухаў, раскрыўшы рот, і так змяў лапцямі капялюш, што той стаў як мачала.

А Федзька ўсё рагатаў і ніхто не ведаў, з чаго смяецца Федзька.

— Супастаты!—крыкнуў бацюшка.—Кіньце смяяцца, іроды!

Федзька ўстаў і, аж заходзячыся ад смеху, прамовіў:

— Бацюшка, прыміце свой капялюш, а то нам смешна,—і Федзька паказаў рукою пад парту.

У класе падняўся агульны няўстрымны рогат.

Попік затупаў кароткімі нагамі, закрычаў нешта страшнае і вывеў нас з Федзькам за вушы з класа.

— Эх, Сёмка!—уздыхнуў дарогаю Федзька і махнуў рукою.

Усю дарогу дахаты мы маўчалі і былі сумнымі. На нас крычалі дома. І толькі адзін жартаўнік дзед Сівоха суцешыў:

— Дзівакі, хлопцы! Ідзіце да мяне ў навуку. Я вас так навучу, што ўсё жыццё будзеце дзякаваць... Гайда да мяне ў падпасычы.

З вясны мы пайшлі ў падпасычы да дзеда Сівохі, а ў наступную восень прагрымела ў краіне рэвалюцыя.

Мы зноў сталі вучыцца.





# МУНГО

*Апавяданне А. Пятрова*
*Рысункі В. Тіхановіча*

Была раніца. Мунго[1]) прачнуўся і вышаў з норкі. Тут ён сеў на заднія лапкі і соладка пазяхнуў.

Пад гарою шумела рэчка. За ёю зелянелі рысавыя плантацыі, акружаныя густым лесам. Каля рэчкі відаць былі індускія хацінкі. Цёмнаскурыя дзеці з вясёлым крыкам плюхаліся ў вадзе і голыя бегалі па беразе.

Мунго пазяхнуў яшчэ раз. У гэту хвіліну яму засвярбела вуха. Мунго пачухаў вуха задняй лапкай і ўскочыў на камень, які служыў для яго наглядальным пунктам.

З норкі пачуўся піск. Мунго натапырыў левае вуха. Дзеці былі галодныя. Ён і сам з ахвотаю з'еў-бы кавалак змяі або тлустую яшчарыцу. Але Мунго не адважваўся пакідаць норку, бо яшчэ жонка яго—Мунгіна—не вярнулася з палявання, а навокал жылі ворагі, што маглі пакрыўдзіць маленькіх дзяцей.

Пільнымі вачыма Мунго абвёў кожны кусцік на беразе рэчкі. Мунгіны не было. Дзіўна, вельмі дзіўна! Яна ніколі не адыходзіла ад норкі...

Дзеці пішчалі ўсё больш настойліва, Мунго асцярожна варушыў вушамі. Што рабіць? Пайсці, ці яшчэ пачакаць? Ён варочаўся на ўсе бакі і нават прыўзняўся на задніх лапках, каб зірнуць у глыбокі роў. Але дарма! Мунгіна нібы ў вадзе затанула.

---

[1]) *Мунго* або індуская мангуста—маленькая драпежная жывёліна. Водзіцца ў Індыі і на востраве Цэйлоне. Многа знішчае змей.

У сэрцы Мунго закралася трывога. Ён убег у норку і абнюхаў сваё патомства, нібы ўпрашваў дзяцей трошкі пацярпець. Пасля гэтага ён адразу-ж пабег у лагчыну да рэчкі. Звярок не думаў як людзі, але ён цвёрда ведаў, што з Мунгінай здарылася нешта страшнае і што ад гэтага дня яму прыдзецца самому клапаціцца аб дзецях.

Лагчына густа зарасла кустамі. Тут вяліся дзікія паўліны. Мунго нападаў на іх дзяцей толькі ў рэдкіх выпадках, бо паўліны з такою злосцю кідаліся на яго, што звярок ледзьве ратаваўся жывым.

— Ку-ка-рэ-ку!—пачулася ў кустах. Мунго падкраўся і ўбачыў на галлі дрэў цэлую сям'ю дзікіх курэй. Гэта была прынадная здабыча, але пажывіцца ёю ўдавалася не заўсёды.

Мунго падпоўз бліжэй і, перавярнуўшыся на спіну, прытварыўся мёртвым. Дурненькі малады пеўнік убачыў яго і зляцеў на ніжнюю галінку Мунго ляжаў як забіты. Пеўнік круціў галавою і з цікавасцю разглядаў незнаёмы прадмет. Ён ужо збіраўся ляцець на зямлю, але перашкодзіла чапля: яна з шумам узнялася з балота і спалохала пеўніка.

Звярок пабег удоўж рэчкі. Ён заглядваў у кожную шчыліну і аглядаў кожны кусцік. Каля вады ён наткнуўся на варана; гэта двухметравая яшчарыца была не па яго сіле. Мунго пераскочыў праз яе і ледзь не схапіў за галаву зялёную змяю, што вісела над сцежкай, зачапіўшыся кончыкам хваста. Але змяя ў час заўважыла небяспеку: яна ўмомант абвілася навокал галінкі і вытрашчыла на ворага чырвоныя, як кроў, вочы.

Мунго паімчаўся далей. У глыбокім рове ён злавіў дзве жабы і ў зубах з імі пабег назад.

Дзеці, засумаваўшы, выпаўзлі з норкі. Мунго выпусціў з рота жабу і са злосцю накінуўся на свой вывадак. Якая неасцярожнасць! Вылазіць з нары, калі над ёю кружацца каршуны... Назад! Хутчэй! Мунго куснуў кожнага дзіцёнка за бок і пагнаў іх усіх у норку.

Жаб хапіла ўсім дзецям. Ён глядзеў на дзяцей як тыя прагна елі здабычу і сам міжвольна аблізваўся.

Наеўшыся, дзеці паклаліся ў кутку. Мунго пабегаў каля норкі і накіраваўся на вяршыню гары. Там была чайная плантацыя і стаяў дом, у якім жылі „белыя“ людзі.

Мунго не баяўся людзей, у якіх была цёмная скура. Ён часта бегаў пажывіцца ў іхнія сады, а іншы раз і ў хату. Індусы дарослыя і іх дзеці не крыўдзілі Мунго: яны лічылі яго за прыяцеля, бо ён шмат знішчаў

ядавітых змей. Але з „белымі“ людзьмі Мунго стараўся не сустракацца і ніколі не падыходзіў да іх дома.

У садзе каля дома расло шмат прыгожых дрэў і кустоў. За імі даглядаў стары садоўнік—індус. Калі ён заўважаў Мунго, дык кожны раз гаварыў:

— Дзякую, любы звярок! Вылавіў усіх змей.

Канешне, Мунго не разумеў яго слоў, але ён ведаў, што можа смела прабегчы каля старога садоўніка.

Калі Мунго забраўся ў сад, ён раптам наткнуўся на знаёмы след сярод кустоў. Вядома, гэта быў след Мунгіны. Яна сёння прабягала тут!

Мунго пабег па сляду. След вёў да глыбокага рова. На дне яго, пад лісцямі папараці, Мунго ўбачыў срабрыста-шэры камячок, прыкрыты пушыстым хвосцікам. Мунго з усіх ног кінуўся ў роў і падбег да папараці. Пад ім ляжала Мунгіна. Яна скурчылася ў камячок, нібы спала. Мунго абнюхаў яе: яна пахла зусім іначай, чым звычайна. Гэта быў пах мерцвяка.

Мунго сеў на заднія лапкі і доўга глядзеў на мёртвую жонку. На галоўцы Мунгіны запяклася кроў. Вялікія зялёныя мухі круціліся навокал і сядзелі на галінках папараці.



Мунго ціханька завішчэў і крануў Мунгіну лапкай. Яна не варушылася. Мунго вільнуў хвосцікам і ад вялікага хвалявання пачаў бегаць па рове. Потым ён два разы абышоў навокал жончынага цела і, пастаяўшы хвілінку, лізнуў Мунгіну ў халодны носік. Гэта быў развітальны пацалунак. Цяпер трэба было бегчы на паляванне і да дзяцей, што засталіся без догляду.

Мунго зрабіў некалькі скачкоў і выбег з рова.

Бах! Нешта балюча апаліла бок Мунго. Каля куста стаяў белы хлопчык і трымаў у руках стрэльбу. Мунго кінуўся ў бок і вялікімі скачкамі паімчаўся з гары. Ад жаху замірала яго сэрца. Першы раз у жыцці ён быў пакрыўджан чалавекам. Ды яшчэ як пакрыўджан! Хутчэй, хутчэй дамоў!



Можа ўдасца залізаць рану і адляжацца.



Вось спад каля раўчука. Вось скала, за якою знаходзілася норка. На срабрыстай шэрсці Мунго ўсё шырэй расплывалася крывавая пляма. Ён напружваў усе сілы і, як вецер, пераскочыў праз ствол дрэва, што ляжала пад скалой.

Раптам Мунго крута спыніўся. Яго шэрсць паднялася дубка: між каменьмі, каля ўвахода ў норку, бліснула сваёю лускаю кобра (ачковая змяя). Ядавіты гад спусціўся з гары і намерваўся ўлезці ў норку. Ён высока падняў галаву і варушыў раздвоеным язычком.

Мунго падскокнуў на месцы і голасна завішчэў. Гэта быў той голас, якім выклікаюць на бой ворага. Звярок зусім забыўся пра рану. Перад ім быў самы заядлы вораг усяго мунговага роду. Гад дабіраўся да яго дзяцей. Забіць яго, забіць, хоць можа і прыдзецца заплаціць за гэта сваім жыццём!

Мунго скокнуў да змяі, але яна ўчас заўважыла яго і скруцілася кольцамі. На раздзьмутай кобравай шыі выразна выступіў рысунак ачкоў (акуляраў). Змяя была гатова да адпору. Яна не баялася; яе маленькія вочкі блішчэлі, а з рота вылятала грознае шыпенне.

Мунго знішчыў нямала кобраў. Ён быў спрактыкаваным байцом. Але ён страціў шмат крыві і аслабеў. А кобра была вялікая і займала выгадную пазіцыю сярод каменняў.

Мунго стаў падскакваць навокал змяі. Чорныя ножкі, нібы спружынкі, перакідалі яго з каменя на камень. Раз-два! Раз-два! наперад, назад, у бок, зноў наперад... здавалася ён выконваў нейкі замыславаты танец. Яго пушысты хвост мільгаў у паветры, як сцяг вайны, а баявы кліч далёка разлягаўся па лесе.

Кобра хутка пакручвала верхнюю частку тулава. Яна ўдала выкарыстоўвала добрую пазіцыю і абаранялася смела і ўпэўнена. Яе раздзьмутая шыя, падобная на шчыт, сустракала кожны напад супраціўніка.

Каля ўвахода ў норку з'явіліся дзеткі; яны пачулі шум і вышлі даведацца, што робіцца каля іх дома. Дзетвара згрудзілася ў кучку і вытрашчанымі вочкамі глядзела на змяю і бацьку.

Мунго ўбачыў сваё патомства. Ён сабраў апошнюю сілу і зрабіў два вельмі смелых скачкі праз галаву кобры. Змяя закруціла галавою, але спазнілася павярнуцца. У гэты момант Мунго схапіў яе за шыю.

Пачаўся апошні бой. Кобра шалёна круцілася і біла Мунго аб камені то галавою, то спіною, то акрываўленым бокам. У Мунго цямнела ў вачах, але ён моцна ўчапіўся зубамі ў халоднае змяінае цела і не выпусціў да таго часу, пакуль кобра не перастала трапятацца. Тады ён расшчаміў сківіцы і, ускочыўшы на камень, завішчэў пераможным голасам. Але тут сілы пакінулі Мунго: ён захістаўся і ледзьве дабраўся да норкі...

Мінула тры месяцы. Мунго паправіўся і хадзіў з дзецьмі на паляванне. Ён навучаў іх як трэба нападаць на ворагаў, як трэба абараняцца ад іх, але нападаць на ядавітых змей яшчэ не дазваляў ім.

Ён больш не хадзіў да таго дома, у якім жылі „белыя“ людзі; у садзе развялося шмат змей і стары садоўнік цяпер з небяспекаю падыходзіў да кожнага дрэўца, да кожнага кусціка.





# Сабака Пятрушка

*Народная казка*

*Рысункі А. Волкава*

Жыў быў на свеце багаты пан. Вялікі быў у яго маёнтак і шмат меў ён усялякага дабра. Але найбольш з усяго свайго багацця любіў той пан сабаку-ганчака. Хітры гэта быў сабака—ну, як чалавек, не раўнуючы. Што пан яму ні загадае—усё зробіць. І імя даў яму пан не абы-якое, а чалавечае: Пятрушка.

Люты быў той пан. Ніводзін парабак не мог у яго праслужыць больш за тыдзень. Вот раз здарылася так, што астаўся пан без парабкоў: усе пазбягалі. Запрог пан сам каня і паехаў шукаць парабкоў. Ездзіў, ездзіў—ніхто не ідзе да яго: ведама, усе знал, які люты гэты пан.

Сярдзіты варочаецца пан дадому. Бачыць насустрач чалавек ідзе і песню спявае. А сам абадраны, босы.

„Ну,—думае пан, — запытаюся, можа гэты пойдзе да мяне ў парабкі“. Як падумаў, так і зрабіў.

— Стой,—кажа,—чалавек, ці неноймешся ты да мяне за парабка?

— А чаму-ж,—адказвае той, — не наняцца, калі добры пан трапляецца.

Усміхнуўся пан у вусы ды думае: „эге, значыць пойдзе, раз добрым мяне палічыў“.

— Ну, то садзіся на воз.

Сеў Янка (так звалі таго чалавека) на панскі воз і яны паехалі. Толькі прыязджаюць на двор як пан і загадвае Янку:

— Едзь,—кажа,—у лес па дровы.

— То я-ж, пане, галодны, спачатку пад'есці трэба,—кажа Янка.

— А хіба-ж я цябе наймаў есці, а не рабіць. Я-ж цябе наймаў на работу, а не на яду!—накінуўся на яго пан.

Пачухаў Янка патыліцу і кажа:

— Я-ж не ведаю, дзе той лес і якія мне сеч дрэвы.

— А гэта табе пакажа мой сабака Пятрушка. Куды ён—туды і ты.

Я шапну яму і ён завядзе цябе, куды трэба,—сказаў пан.

Згадзіўся Янка і паехаў услед за сабакам. А сабака зарадваўся, што вольны, і давай бегаць, куды папала. Сабака ў лужыну і Янка з возам у лужыну, сабака ў кусты і Янка—туды. Так і ў лес прыехалі.

Назаўтра ўжо прышоў аконам і будзіць Янку:

— Уставай,—кажа,—пан загадаў, каб ты авечку зарэзаў: заўтра госці да пана прыедуць.

Устаў Янка і пайшоў к пану.

— Якую авечку, пане, загадаеце зарэзаць?



Толькі Янка паспеў ссеч адно дрэва, як сабака завярнуўся ды пабег назад. Скокнуў на воз Янка ды за сабакам. Куды сабака—туды і Янка. Так і дадому прыехалі.

Убачыў пан, што парабак без дроў вярнуўся, паклікаў аконама ды давай удвух біць Янку. Білі-білі, чуць не забілі.

— Вазьмі,—кажа пан, — сабаку Пятрушку—да каторай ён падбяжыць, тую і рэж.

Узяў Янка нож велізны і востры, паклікаў сабаку і пайшлі ў хлеў. А хлеў вялікі, авец многа. Вось і пачаў сабака бегаць па тым хляве: то да адной авечкі падбяжыць, то да другой. А Янка ўслед

за ім—ды па горле, ды па горле нажом тым авечкам, да каторых Пятрушка падбягае. І так усіх авец перарэзаў.



Прыйшоў пан паглядзець, ці добрую авечку зарэзаў Янка для гасцей, ды аж за галаву хапіўся: усе авечкі перарэзаны. Зноў паклікаў пан аконама і зноў пачалі біць Янку. Білі-білі, чуць не забілі. А потым пан і кажа:

— Ну, дурань, цяпер-жа вары суп з авечыны. Ды толькі глядзі, каб смачны быў: перцу падсып і пятрушкі накрышы.

Думаў, думаў Янка, якая гэта пятрушка, а потым успомніў, што гэта панскі сабака так завецца. Узяў ён сабаку, зарэзаў яго, шкуру аблупіў, а мяса пакрышыў дробненька ды ў кацёл з супам, як пан казаў.

Вось сабраліся ў пана госці. Стаў іх Янка частаваць сваім супам. Ядуць паны сабачыну, аж вушамі хлопаюць. Наеліся, проста жываты распірае.

— А цяпер,— кажа пан,—дарагія госці, пакажу я вам свайго вучонага сабаку... Гэй, Янка, пакліч мне сюды Пятрушку!

— Якога Пятрушку?—здзівіўся Янка,— ты-ж сам загадаў мне яго пакрышыць і ў суп укінуць.

Як пачуў гэта пан, дык так і ўчарнеў на месцы. Злаваў, злаваў, пакуль не лопнуў ад злосці. А гасцей як пачало тузаць ды рваць пасля гэтага! Вот так да вечара і духі з іх вон.

*Запісаў А. БОЛДЫШ*






*Верш С. Міхалкова*
*Рысункі В. Тіхановіча*

Хто на лавачцы сядзеў,
Хто на вуліцу глядзеў.
Кім спяваў,
Барыс маўчаў,
Мікалай нагой ківаў.

Галка села на паркане,
А за ёю збоку грак...
Раптам крыкнуў хлопчык Ваня
Проста так:
„А ў мяне ў кішэні цвік!
А у вас?“



„А у нас Барбоска знік!
А у вас?“

„А у нас нядаўна кошка
Нарадзіла кацянят.
Ўжо растуць яны па-трошку
І пужаюць куранят!“

„А у нас на кухні газ!
А у вас?“
„А ў нас вадаправод!
Вот!“

„А вось з нашага акна
Уся, як ёсць, Масква відна!
А у вас відаць з аконца
Толькі вуліца ды сонца!“

„А у нас агонь пагас—
Гэта раз!
Грузавік нам дроў прывёз—
Вось!

А па-трэцяе, што мама
Адпраўляецца ў палёт,
Бо—ўсе знаюць—наша мама
Называецца—пілот!"



Адказаў на гэта Гога:
„Мама—лётчык?
Што-ж такога?
У Янкі—слухайце мяне:
Мама—міліцыянер!
У Міколкі-ж і у Веры
Мамы—кіноінжынеры!
А ў Лявонкі мама—повар!
Мама—лётчык?
Што-ж такога?
Гэта ў нас цяпер нянова!"

„А найлепш сказала Ната,—
На трамваі быць важатай:
Мая мама да Зацэпы
Водзіць зразу два прыцэпы!"

Запытала Ніна ціха:
„А ці-ж дрэнна быць краўчыхай?
Хто-б трусы пашыў для ўсіх?
Не пілоты шыюць іх!"

Лётчык водзіць самалёты,
Малайчына лётчык-мама!

Повар варыць нам кампоты,—
Малайчына гэтак сама!

Лечыць доктарша ад болю,
Вучыць лектарша у школе...
Мамы ўсе патрэбны нам,—
Не бывае лішніх мам!

*Пераклад А. ЗІМІОНКІ*











# АПАВЯДАННЕ ПАРТЫЗАНА

*А. Якімовіч*

*Рыс. А. Шахрая*

Наш невялічкі атрад партызан толькі што сабраўся быў пад густой развесістай елкай снедаць, як раптам недалёка ад нас нешта моцна хруснула, заварушыўся гушчар і ўслед за гэтым з куста паказалася галава хлапчука-падлетка.

Мы ўсе без каманды мігам ускочылі на ногі, хапіліся за зброю. Гаршок адцэджанай бульбы дыміўся каля вогнішча прыемнай парай і раздражняў нашы жываты. Але не да гэтага было. У мяне адразу чамусьці мільганула думка: хлапчук—праваднік; ён прывёў белых; значыць, мы акружаны...

Гэтыя западозранні падмацаваліся ўслед яшчэ і тым, што хлапчук, паказаўшы з кустоў галаву, зноў шчоўкнуў назад: кусты зашасталі і ўсё сціхла.

Перапалоханы, я глянуў на таварышоў; яны—на мяне. Стаім і не ведаем, што рабіць: кінуцца наперад за хлапчуком, ці назад даць ходу.

Мінула так можа з цэлая хвіліна, як мы ўсё стаялі ў нерашучасці. Праўда, потым мы доўга рагаталі з гэтай прыгоды і жартавалі адзін з другога. Але—жарты жартамі, як той кажа, а тады і не да іх было. Мы ўсе добра ведалі, у якім становішчы знаходзімся: кругом польскія раз'езды; апрача таго, учора дайшла да нас чутка, нібы паны ўжо заварушыліся з-пад Бярозы... Значыць, дзень-два і фронт можа быць тут... Спадзявацца на тое, што нас не выдадуць, таксама было рызыкоўна: у раёне нямала кулакоў і контррэволюцыянераў, якія пры першай магчымасці скарысталі-б выпадак прадаць нас белапалякам. І ў асобе гэтага хлапчука, які так асцярожна, як здалося нам, заглянуў з-за куста, мы гатовы былі бачыць нямаведама якога небяспечнага ворага,—знарок падасланага правадніка.

Я быў за старшага ў атрадзе і, канешне, усе чакалі маёй каманды. Успомніўшы гэта, я загадаў паціху:

— Вогнішча закрыць. Усім схавацца і чакаць,—а сам, туляючыся між дрэў, падаўся да кустоў.

Падышоў, гляджу—стаіць той хлапчук і цікуе ў наш бок. Мяне ён мусіць, і не заўважыў: я ішоў вельмі асцярожна. А потым я ледзь не закрычаў на ўвесь лес: але заместа гэтага радаснага крыку я толькі праказаў:

— Бадай цябе, ажно настрашыў нас. Хадзі сюды!

Пачуўшы мой голас, хлапчук павесялеў, падаўся да мяне. Ды чамусьці неахвотна: утаропіўся, глядзіць здзіўлена на маю рыжую густую і даўгую бараду. Я здагадаўся, у чым справа: ну, канешне, з такой барадой ён мяне яшчэ не бачыў. І мне смешна стала. Хацелася нават спачатку пастрашыць хлапца, змяніць голас, ды перадумаў: напалохаецца, думаю, пусціцца наўцёкі, тады даганяй.

— Хадзі смялей! Ты што, Юзік, не пазнаеш?—загаварыў я звычайным голасам.



Бачу, мой Юзік адразу змяніўся ў твары: павесялеў, засмяяўся. Але ўсе яшчэ гэтак-жа зацікаўлена дзівіцца на маю бараду. А барада ў мяне сапраўды страшная вырасла: раней я сам сябе пужаўся, калі, часамі, заглядваў у ваду замест люстэркі. Потым прывык.

— Ой, дзядзька Мацвей, далібог не пазнаў вас. Як загаварылі, голас знаёмы, а твар зусім не,—падышоў да мяне Юзік. Гэта быў мой добры знаёмы, сын аднавяскоўца Мірона. Мірон наш чалавек. Я нават чакаў з дня на дзень яго ў сваім атрадзе. Пару дзён таму я бачыўся з ім і Мірон гаварыў, што ўжо ўсё бадай гатова: чакай, кажа, прыду, і не адзін нават. І вось зараз замест Мірона перада мною яго сын.

— Ну, здароў, Юзік,—падаў я яму руку.—Як-жа гэта ты сюды?

Юзік ясна сваім адумам не мог трапіць да нас, і яго прыход мяне дзівіў і цікавіў.

Пасля майго гэтага запытання Юзік спахмурнеў адразу, на вачах заўважыў я слёзы.

Таварышы, калі ўбачылі, што я размаўляю з хлапчуком, падбеглі таксама.

— Дык вось хто тут нас пужае,—загаманіў, рагочучы, Адам, які таксама быў з аднае вёскі і цяпер пазваў Юзіка.—А мы ўжо думалі, ты цэлы полк паноў за сабой прывёў. Чаго-ж ты, чудачок, схаваўся? Мусіць не пазнаў нікога...

Нас акружылі партызаны. Пасыпаліся жарты, смех. Але бачу па хлопцу— не да жартаў тут: нешта, мабыць сур'ёзнае, здагадваюся. Я сцішаю сваіх хлопцаў і пытаю ў Юзіка:

— Бацька, мусіць, прыслаў?

— Ага,—матнуў ён галавой.

— Ну, ну?—не церпіцца мне.

— Белапалякі ў нас... усё забіраюць,—пачаў ён апавядаць.—І вашага,— глянуў на мяне,—каня забралі... і ўсё трасуць—куфры, свірны, лепшае што—грузяць на вазы...

— Вось гады, дарэшты азвярэлі,—гнеўна бліснуў вачыма Адам, які толькі што быў гэтак развесяліўся.

— Так, так... а што-ж бацька табе сказаў? за чым ён выправіў?

— Бацька хацеў не даць цялушкі, але яму паляк як стукнуў вінтоўкай па галаве... — хлапец на хвілінку змоўк. Потым зноў загаварыў:—ён сказаў мне бегчы да вас, сюды, і перадаць. Можа вы падскочыце ратаваць?



Гэта сумная вестка ўсхвалявала ўсіх нас. За каня свайго я менш за ўсё турбаваўся. Але — жонка там, дзеці... я-ж добра ведаў норавы панскіх бандытаў. Ды і ўсю вёску спустошаць. А ў той год людзі і так ледзьве ногі цягалі: хлеб белыя ўжо да гэтага ўвесь выбралі. Цяпер, значыць, грабяць апошняе, людзей з торбамі па свету пусцяць. І дарыць не будзе каму. Да жніва яшчэ з месяц асталося. І гэтыя зверскія здзекі... чаго добрага, пасля грабяжу могуць і вёску падпаліць. Бандытам што—людзей шкада? Натое яны і бандыты.

Падумаўшы так, у мяне аж сэрца закалацілася. Эх, думаю сабе...

— А колькі іх, Юзічак?—пытаюся я ў хлапца.

— Тата сказаў: дзесяць чалавек.

— Дзесяць чалавек!

Я акінуў вокам сваіх сяброў. Яны зразумелі мяне.

— Хадзем!—рашуча сказаў, Адам, падціскаючы тужэй папругу.

— А вы?—звярнуўся я да другіх.

Што-ж, баяцца нечага: іх дзесяць, нас—адзінаццаць,—адказаў самы малады з майго атрада, хлапец з суседняй вёскі.

Усе падтрымалі яго.

— Пайшлі, хлопцы!

Бульбу мы ўсё-ж забралі і з'елі нахаду.

Да вёскі парашылі прабірацца балотам: якраз у адным месцы кусты падыходзілі да самых гародаў, гэтую дарогу мы і выбралі.

*Канец будзе.*

# „ДЗІУНЫЯ ЖЫВЁЛЫ ЯНКІ МАЛАНКІ“

(АДКАЗ НА РЫСУНКІ, ЗМЕШЧАНЫЯ Ў № 8)



## ЛЯТУЧАЯ МЫШ

Лятучую мыш вы, напэўна, не раз самі бачылі. Яе яшчэ завуць—кажан. Гэта невялікая жывёлінка мае чатыры нагі. Пярэднія ногі яе злучаны лятальнай перапонкай з заднімі нагамі. Гэта крыллі кажана Удзень кажан спіць, а вечарам вылятае на здабычу—лавіць розных мошак. На зіму кажаны збіраюцца чародамі ў дуплах, павісаюць на задніх лапках і спяць да вясны.



## РЫБА-ПІЛА

Жыве рыба-піла амаль ва ўсіх морах, каля берагоў. Даўжыня яе з пілою дасягае пяці метраў. Піла займае трэцюю частку цела. Ёю рыба абараняецца ад сваіх ворагаў і сама нападае на другіх рыб. Мяса рыбы-пілы цвёрдае і нясмачнае.



## МОРСКІ ЛЕЎ

А морскі леў зусім не такі, як думаў Янка Маланка. Ён падобны на цюленя. Жыве пераважна ў Ціхім акіяне, а таксама каля берагоў Сібіры, Камчаткі, Сахаліна. Даўжынёй морскі леў бывае да 4-х метраў, а ў абхват да 3-х метраў. Важаць некаторыя з іх больш за 30 пудоў. Мяса і тлушч морскіх львоў ідзе на яду, а скуры і кішкі на выраб.



## ДАЖДЖАВЫ ЧАРВЯК

Падніміце на нізкім месцы камень або палена і вы ўбачыце там дажджавога чарвяка. А калі з вас хто-небудзь рыбалоў—дык гэты чарвяк напэўна не раз служыў вам прынадаю для рыбы. Ён жыве ў сырым, вільготным месцы і ў час дажджу вылазіць з сухой зямлі наверх. Таму і называюць яго дажджавым чарвяком.

## ЖУК-ДАЛАКОП



Сустракаецца жук-далакоп або магільшчык усюды, за выключэннем халодных краін. Харчуецца ён трупамі казурак і маленькіх жывёлін. Называецца ён магільшчыкам таму, што знаходку сваю закопвае ў зямлю-магілу, нібы хавае яе, і там спажывае.

## РЫБА-МОЛАТ



Гэта рыба сапраўды з молатам: галава яе падобна на молат. Яна вельмі небяспечная — нападае на рыб, а таксама на людзей. Сустракаецца рыба-молат не толькі ў цёплых морах, але і ў больш халодных. Жыве галоўным чынам на дне мора і недалёка ад берагу. Даўжынёй бывае да 4-х метраў і важыць да 18 пудоў. Рыба-молат вельмі пладавітая: яна можа адразу радзіць да 40 жывых рыбак.

## ПТУШКА-КРАВЕЦ



Гэта маленькая птушка жыве ў Іспаніі, Італіі, Грэцыі. Яна звівае гняздо з лісцяў. На краях ліста праколе дзюбкай дзіркі, а потым у гэтыя дзіркі працягвае павуцінне, як ніткі. Лісцік да лісціка прышые і гатова гняздо. А ў сярэдзіне пух, валоссе, павуцінне, і ўсё гэта да сценак гнязда прышыта.

## ЖУК-ТАЧЫЛЬШЧЫК



Ён сапраўды тачыльшчык, толькі не з тачылам, як думаў наш Янка. Гэты маленькі чырванавата-буры жучок жыве ўсюды і прыносіць людзям вялікую шкоду. Ён псуе (точыць) кніжныя пераплёты, збожжа, муку, кофе, чай.

ЦАНА 30 кап.



# ПАДУМАЙ





## МОСТ З ЗАПАЛАК

Паспрабуйце з запалак зрабіць такі мост, як паказаны на рысунку.

## ЗАГАДКА ЦЕСЛЯРА

У мяне ёсць дошка. У ёй выпілаваны тры дзіркі: адна круглая, другая крыжам, а трэцяя квадратная.

Здагадайцеся як зрабіць адну такую затычку, каб яна падыходзіла для ўсіх трох дзірак.






## ДЗІЎНЫ КВАДРАТ

Мой таварыш нарысаваў на кавалачку паперы малюнак.

— Гэта дзіўны квадрат,— сказаў ён мне.—Яго прыдумалі кітайскія вучоныя тры тысячы гадоў назад.

— А што-ж тут дзіўнага?—спытаў я.

— А гэта ты сам здагадайся,—адказаў таварыш.

— Паглядзі на лічбы, як яны тут падабраны.

## ЖЫВАЯ РЫБКА

Выраж з паперы рыбку (глядзі рысунак).

Пасярэдзіне рыбкі выраж вузенькі канал. Цяпер асцярожна палажы рыбку ў міску з вадою і ў белы кружок № 1 капні кроплю алею.

Рыбка паплыве.




Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ Афармленне А. ШАХРАЯ Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ
Друкарня імя Сталіна 10.000 экз. Заказ № 816. Ун. Галоўлітбела № Б—3503.